# ЗВЯЗДА

6 лістапада 1996 г. серада, № 263 (23066)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## ДЭФІЦЫТ КУРЫНЫХ ЯЕК ЛІКВІДАВАНЫ, ВЫТВОРЧАСЦЬ ГАРЭЛКІ ПРАЦУЕ НА ПОЎНУЮ МАГУТНАСЦЬ, РОЗНІЧНЫЯ ЦЭНЫ ЗАСТАЮЦЦА РАНЕЙШЫМІ

Як ужо паведамляла «Звязда», апошнім часам у краіне ўзнік шэраг праблем з забеспячэннем пакупнікоў пэўнымі прадуктамі харчавання. У прыватнасці, утварыўся дэфіцыт курыных яек, да таго ж з мінскіх магазінаў месцамі знікла гарэлка. Натуральна, такое становішча рэчаў не надае людзям аптымізму і служыць падставай для ўзнікнення самых розных чутак: па якой прычыне складваецца ажыятажны попыт, ці будуць наогул захаваны рознічныя цэны? З просьбай даць адказы на ўзнікшыя пытанні рэдакцыя ў чарговы раз звярнулася ў Міністэрства гандлю да намесніка міністра Міхаіла Еўтухоўскага, які курыруе менавіта гэтую галіну.

**— Міхаіл Міхайлавіч, найперш, чым тлумачыцца дэфіцыт курыных яек і як ён вырашаецца?**

— Сапраўды, апошнія дзесяць дзён у Мінску назіраюцца перабоі ў забеспячэнні насельніцтва гэтым прадуктам харчавання. Адбываюцца яны таму, што птушкафабрыкі аб'яднання «Белптушкапром» сталі менш пастаўляць ў гандлёвую сетку курыных яек. Для задавальнення патрэб спажыўцоў іх патрабавалася апошнім часам 740 тысяч штук штодзённа. Але пачынаючы з 21 кастрычніка гандаль атрымліваў ад птушкафабрык у асобныя дні толькі па 400—500 тысяч штук. Такім чынам, за апошнія дзесяць дзён мы атрымалі гэтага прадукту харчавання толькі 62,2 працэнта ад патрэб. Заўчора з гэтай нагоды адбылася нарада ва ўрадзе з удзелам усіх зацікаўленых бакоў, на якой было тэрмінова выпраўлена становішча. У прыватнасці, з 5 лістапада птушкафабрыкі (якім ужо даведзены планы) штодзень павінны пастаўляць Мінску не менш як 800 тысяч яек. Тое ж самае датычыць абласных і раённых цэнтраў, дзе таксама апошнім часам узнік дэфіцыт гэтага прадукту.

**— Ці застануцца на ранейшым узроўні цэны на яйкі?**

— Хачу сказаць, што яны ў нас нязменныя з 1 чэрвеня бягучага года. Зразумела, кошт залежыць ад катэгорыі: ёсць яйкі дыетычныя, сталовыя. Нагадаем, што сёння гэта адзін з самых танных прадуктаў харчавання. У той жа Расіі іх цана ў пераліку на нашы грошы дасягае 20 тысяч

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## ПАСЛАННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЯРХОЎНАМУ САВЕТУ

У адпаведнасці з пунктам 7 часткі першай артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь звяртаюся да Вас па пытанню аб захаванні Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь у сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 г.

Мной прымаюцца ўсе прадугледжаныя заканадаўствам меры для правядзення рэферэндуму 24 лістапада 1996 г. у абстаноўцы стабільнасці, узаемаразумення і ў строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь. Неаднаразовыя спробы выштурхнуць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за рамкі прававога поля і вымусіць да парушэння заканадаўства не ўвянчаліся поспехам. Больш таго, я неаднаразова ішоў на прапанаваныя мне кампрамісы, каб не дапусціць канфрантацыі і абвастрэння становішча ў грамадстве.

Аднак Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы апазіцыйных Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь сіл была арганізавана чарговая акцыя, накіраваная на недапушчэнне правядзення рэферэндуму ў адпаведнасці з Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 г. «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню».

Дзейнічаючы наперакор волі Вярхоўнага Савета, выказанай у яго рашэннях, С. Г. Шарэцкі вымусіў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь разгледзець па ўласнай ініцыятыве справу аб адпаведнасці важнейшых палажэнняў названай пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі і законам і праз сваіх прадстаўнікоў зрабіў усё магчымае для іх адмены.

Разгляд гэтай справы і прынятае Канстытуцыйным судом рашэнне груба парушаюць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым Канстытуцыйны суд, разглядаючы акты, якія не носяць нарматыўнага характару, і робячы заключэнні, не заснаваныя на Канстытуцыі і законах, далёка выйшаў за рамкі прадастаўленых яму паўнамоцтваў.

У выніку народ аказаўся пазбаўленым канстытуцыйнага права прымаць рашэнні, абавязковыя для ўсіх дзяржаўных органаў, а Канстытуцыйны суд выканаў ролю, адведзеную яму праціўнікамі народнага волевыяўлення.

У сувязі з гэтым я прапаную Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь праявіць дзяржаўную мудрасць і спыніць неканстытуцыйныя спробы, накіраваныя на перагляд нормаў Пастановы Вярхоўнага Савета ад 6 верасня 1996 г. «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню», прынятых па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Са свайго боку ў адпаведнасці з прадастаўленымі Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь канстытуцыйнымі паўнамоцтвамі зраблю ўсё неабходнае для захавання Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь і рашэння Усебеларускага народнага сходу пры падрыхтоўцы і правядзенні рэферэндуму, у тым ліку абавязковага рэферэндуму па пытанню аб прыняцці прапанаванай мной новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. З гэтай мэтай падпісаны Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які забяспечвае захаванне ўстаноўленага законам парадку прыняцця такога рашэння на рэферэндуме.

Толькі народ з'яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады.

Перакананы ў мудрасці нашага народа. Спадзяюся на захаванне стабільнасці і правапарадку ў рэспубліцы наперакор імкненням праціўнікаў сапраўднай дэмакратыі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*АФІЦЫЙНА*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 452
## АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ ПАЛАЖЭННЯ АБ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ПРАГРАМАХ

У мэтах забеспячэння вырашэння асабліва важных агульнадзяржаўных задач **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць прыкладаемае Палажэнне аб прэзідэнцкіх праграмах.
2. Ускласці на аналітычны цэнтр Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь каардынацыю дзейнасці па падрыхтоўцы прэзідэнцкіх праграм і кантроль за іх выкананнем.
3. Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін унесці прапановы па праектах прэзідэнцкіх праграм на 1996—1997 гады.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
4 лістапада 1996 г.,г. Мінск.

**ЗАЦВЕРДЖАНА**
**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 4 лістапада 1996 г. № 452**

### ПАЛАЖЭННЕ АБ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ПРАГРАМАХ

1. Прэзідэнцкія праграмы — гэта праграмы па важнейшых сацыяльна-эканамічных праблемах, ініцыятарам якіх выступае Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь і якія рэалізуюцца пад яго кіраўніцтвам (патранажам).

2. Прэзідэнцкія праграмы накіраваны на:
сацыяльную абарону малазабяспечаных слаёў насельніцтва;
развіццё вытворчасцей, што заснаваны на новых і высокіх тэхналогіях;
арганізацыю дадатковых рабочых месцаў;
актывізацыю ў Рэспубліцы Беларусь інвестыцыйнай дзейнасці, у тым ліку замежных інвестараў;
забеспячэнне нацыянальнай бяспекі краіны.

3. Прэзідэнцкія праграмы засноўваюцца на:
комплекснасці і рэальнасці вырашэння задач;
збалансаваным спалучэнні фінансавых, матэрыяльных і працоўных рэсурсаў у мэтах найбольш эфектыўнага іх выкарыстання;
дасягненні неабходных канчатковых вынікаў ва ўстаноўленыя тэрміны.

4. Праекты прэзідэнцкіх праграм уносяцца на разгляд Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

5. Прадстаўленыя праекты прэзідэнцкіх праграм падлягаюць экспертызе, якая ажыццяўляецца аналітычным цэнтрам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з даручэннямі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

6. Праекты прэзідэнцкіх праграм, якія прайшлі экспертызу, накіроўваюцца ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь для дапрацоўкі з улікам заўваг і прапаноў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і асоб, якія праводзілі экспертызу, пасля чаго прадстаўляюцца Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь для зацвярджэння.

7. Прэзідэнцкія праграмы зацвярджаюцца ўказамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

8. Расходы па выкананню прэзідэнцкіх праграм фінансуюцца за кошт сродкаў:
дзяржаўнага бюджэту;
спецыялізаваных дзяржаўных пазабюджэтных фондаў;
беларускіх і замежных юрыдычных і фізічных асоб, якія прымаюць удзел у выкананні праграм;
дабрачыннай дапамогі;
міжнародных арганізацый;
іншых крыніц.

# РОЗГАЛАС

*СКАНДАЛ*

## «ЗЯМЛЯ — СЯЛЯНАМ», ГРОШЫ — СТАРШЫНІ СЕЛЬСКАГА САВЕТА

**Канец мінулага тыдня ўскалыхнуў звыклае жыццё аднаго з сельскіх Саветаў Мінскага раёна — Навадворскага. Раптам там з'явіліся і пацярпеўшыя, і вінаваты. Да гэтага часу ўсіх быццам бы здавальняў ход спраў, якія пракручваліся пад дахам Савета, дзе ішоў «чорны перадзел». Аднак аб усім па парадку.**

Бадай, нікому не трэба даказваць таго, што зямля сёння з'яўляецца каштоўнай нерухомасцю. Гэта зараз разумеюць як вяскоўцы, якіх яна ўсё жыццё корміць, так і многія гараджане, вымушаныя цяпер таксама займацца па меры магчымасці земляробствам. Разумеў гэта і старшыня Навадворскага сельскага Савета, якому прыйшлася даспадобы «валтузня» вакол належных (атрымліваецца, што яму) зямель. Грэх не скарыстаць такі «падарунак», мабыць, выравшыў ён. Што ж датычыцца знакамітага «Зямля — сялянам», то, як разважыў прадпрымальны кіраўнік, каб падмацаваць правільнасць лозунга, трэба плаціць. Зразумела, і яму таксама. Прычым «лупіў скуру» старшыня, калі меркаваць па велічыні апошняга хабару, няміласэрна. Праўда, як гэта калі-нікалі бывае, наскочыла каса на камень: чарговы наведвальнік, якому трэба было перааформіць зямлю, аказаўся «зубастым».

У Мінскую міжрайпракуратуру звярнуўся грамадзянін з заявай, што старшыня Навадворскага сельскага Савета патрабуе з яго хабар за пераафармленне зямлі. 800 долараў. «Здзелка», натуральна, падалася чалавеку грабежніцкай. А крыху пазней, калі кіраўнік Савета ўжо паціраў рукі ад задавальнення і пералічваў «баксы», у кабінет да яго зайшлі следчыя. Узялі, як кажуць, з доказамі злачынства. Цяпер старшыня ўтрымліваецца ў следчым ізалятары. Па справе вядзецца следства.

Паводле даных «Звязды», кампетэнтныя органы зараз займаюцца апытаннем пацярпеўшых, якім прыйшлося мець справу з прадпрымальным «саветчыкам». Паступаюць скаргі і ананімна. Аднак усе гэтыя факты трэба яшчэ даказаць. Куды прасцей было б адразу звярнуцца па дапамогу ў праваахоўныя органы.

**Ігар ШЧУЧЭНКА,**
**Пётр РАБКАВЕЦ.**

## ПАДАТКОВЫ ЦЯЖАР БУДЗЕ ЗНІЖАНЫ

**У 1997 годзе падатковы цяжар будзе зніжаны. Аб гэтым паведаміў прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір у час сваёй рабочай паездкі ў Пінск. Плануецца адмена некаторых ускосных падаткаў, у прыватнасці пажарнага. Прадпрыемствы-даўжнікі атрымаюць магчымасць адтэрміноўкі па плацяжах у бюджэт. Тым не менш пазіцыя ўрада ў пытаннях напаўнення дзяржаўнага бюджэту застаецца даволі жорсткай.**

У ходзе паездкі прэм'ер наведаў шэраг прадпрыемстваў горада. Паводле яго слоў, сітуацыя ў Пінску крыху лепшая, чым у цэлым па рэспубліцы.

На прыкладзе Пінска добра бачны тыя перамены, якія адбыліся ў эканоміцы ўсёй рэспублікі. Азнаёміўшыся з узорамі прадукцыі АТ «Амкадор», завода «Камертон», ВА «Пінскдрэў», Міхаіл Чыгір адзначыў, што калі б у 1990 годзе Беларусь магла вырабляць тавары такой якасці, сітуацыя ў краіне была б зусім іншай. На першы план выходзяць пытанні збыту, і вырашаць іх кожнае прадпрыемства павінна самастойна.

У наступным годзе Пінск будзе святкаваць сваё 900-годдзе. Для рэстаўрацыі будынкаў у гістарычнай частцы горада неабходна 40 мільярдаў рублёў. Прэм'ер паабяцаў пінчанам садзейнічанне з боку ўрада.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## «НАШ СОВРЕМЕННИК» БУДЗЕ ДРУКАВАЦЬ ТВОРЫ БЕЛАРУСКІХ АЎТАРАЎ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 5 лістапада прыняў у сваёй рэзідэнцыі намесніка галоўнага рэдактара літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Наш современник» Аляксандра Казінцава.**

Расійскі госць праінфармаваў Аляксандра Лукашэнку аб тым, што ў студзеньскім нумары часопіса за 1997 год можна будзе ўбачыць творы беларускіх пісьменнікаў Івана Шамякіна, Эдуарда Скобелева, Аляксандра Савіцкага. Шырока будзе прадстаўлена і беларуская паэзія.

Аляксандр Казінцаў падкрэсліў, што літаратары павінны ўнесці свой уклад у аб'яднальныя працэсы, якія намеціліся пасля вядомага красавіцкага дагавора аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі. Расійскі госць высока ацаніў ролю кіраўніка беларускай дзяржавы ў гэтых працэсах.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

Пакляваць бы што-небудзь...

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 455
## АБ ПАРАДКУ ЎСТУПЛЕННЯ Ў СІЛУ РАШЭННЯЎ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ АБ ЗМЯНЕННІ І ДАПАЎНЕННІ КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**У мэтах забеспячэння канстытуцыйнага права грамадзян на ўдзел у вырашэнні важнейшых пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця ПАСТАНАЎЛЯЮ:**

1. Устанавіць, што:

1.1. У адпаведнасці з артыкулам 73, часткай другой артыкула 149 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь змяненні і дапаўненні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз абавязковы рэспубліканскі рэферэндум. Рашэнне аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі шляхам абавязковага рэферэндуму лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала большасць грамадзян, унесеных у спісы для галасавання;

1.2. На падставе артыкула 36 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Беларускай ССР» вынікі абавязковага рэферэндуму аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь устанаўліваюцца на пасяджэнні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў і заносяцца ў пратакол. Пратакол падпісваецца старшынёй, намеснікам старшыні, сакратаром і членамі камісіі.

Паведамленне аб выніках рэферэндуму публікуецца ў друку Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў у сямідзённы тэрмін;

1.3. Рашэнне аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятае абавязковым рэспубліканскім рэферэндумам, падпісваецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Рашэнне, прынятае абавязковым рэспубліканскім рэферэндумам аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца канчатковым і не патрабуе зацвярджэння. Яно мае абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і можа быць у адпаведнасці з артыкулам 77 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь адменена або зменена толькі шляхам рэферэндуму, калі іншае не будзе вызначана рэферэндумам;

1.4. Рашэнне аб змяненні і дапаўненні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятае абавязковым рэспубліканскім рэферэндумам, публікуецца на падставе артыкула 38 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Беларускай ССР» у парадку, устаноўленым для апублікавання законаў Рэспублікі Беларусь.

Рашэнне, прынятае абавязковым рэспубліканскім рэферэндумам, уступае ў сілу праз 10 дзён пасля яго афіцыяльнага апублікавання.

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
5 лістапада 1996 г.,г. Мінск.

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## У РУКАХ ДЭПУТАТАЎ ЛЁСЫ ТЫСЯЧ ЛЮДЗЕЙ

**Традыцыйна першы дзень чарговага тыдня пленарных пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларусі часткова прысвечаны ўключэнню ў парадак дня сесіі новых пытанняў. Не стаў выключэннем у гэтым сэнсе і мінулы аўторак. План дзейнасці заканадаўцаў папоўніўся больш чым на пяць пунктаў.**

Сярод іх перш за ўсё трэба адзначыць прапанову аб унясенні змен у Пастанову Вярхоўнага Савета «Аб мерах па падрыхтоўцы і правядзенню агульнарэспубліканскага рэферэндуму». Вяртанне да пастановы абумоўлена заключэннем Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, які напярэдадні вынес свой вердыкт адносна правамоцнасці і законнасці гэтага дакумента (падрабязна аб выніках работы канстытуцыйных суддзяў чытайце ў сённяшнім нумары. — **Ю. Л.**). Вось і хочуць дэпутаты скарэкціраваць пастанову ў адпаведнасці з рашэннем суда. Акрамя таго, мяркуецца, што на другой сесіі будуць разглядацца папраўкі ў законы «Аб падатках і зборах», «Аб бюджэце» і іншыя.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## ЗАЯВА ПРЭС-СЛУЖБЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

4 лістапада Канстытуцыйны суд разгледзеў справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 і 3 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 г. «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню».

Пераканаўшыся ў ходзе двухдзённых пасяджэнняў, што няма законных падстаў для адмены названай пастановы Вярхоўнага Савета, суд прыняў чарговую спробу па зрыву рэферэндуму. Ён прызнаў, што рашэнне рэферэндуму па пытанню прыняцця Канстытуцыі са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі Прэзідэнтам (новай рэдакцыі Канстытуцыі), не можа быць абавязковым.

Тым самым народу адмоўлена ў праве прымаць рашэнні, абавязковыя для ўсіх дзяржаўных органаў.

Сваім рашэннем Канстытуцыйны суд праігнараваў думку народа, выказаную на Першым Усебеларускім народным сходзе, і фактычна аддаў на водкуп аднаго Вярхоўнага Савета прыняцце змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі.

Прызнаўшы за народам толькі права дарадчага голасу, Канстытуцыйны суд груба парушыў прэамбулу і артыкул 149 Канстытуцыі, артыкул 36 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь». Акрамя таго, Канстытуцыйны суд бесцырымонна перавысіў свае канстытуцыйныя паўнамоцтвы, разгледзеўшы акт, які не з'яўляецца нарматыўным, і ўмяшаўся ў сферу кампетэнцыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які з'яўляецца ініцыятарам рэферэндуму і выступае за тое, каб волевыяўленне народа стала абавязковым для ўсіх дзяржаўных органаў.

У сувязі з тым, што гэта справа была заведзена па ўласнай ініцыятыве Канстытуцыйнага суда і што прынятае рашэнне не абгрунтавана ні адной нормай Канстытуцыі і законаў, трэба зрабіць выснову аб чарговай спробе Канстытуцыйнага суда праводзіць палітыку, накіраваную на нагнятанне напружанасці ў грамадстве і зрыў народнага волевыяўлення.

Зыходзячы з таго, што артыкул 3 Канстытуцыі вызначае народ у якасці адзінай крыніцы дзяржаўнай улады, лічым, што ніхто не мае права пазбаўляць народ магчымасці прыняць абавязковыя рашэнні на рэферэндуме. Менавіта гэта будзе пакладзена ў аснову палітыкі, якую праводзіць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАЖАДАЎ БАРЫСУ ЕЛЬЦЫНУ ХУТЧЭЙШАГА ВЫЗДАРАЎЛЕННЯ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў прэзідэнту Расіі Барысу Ельцыну тэлеграму наступнага зместу: «Ад імя беларускага народа і ад сябе асабіста выказваю цвёрдую ўпэўненасць ва ўдачным зыходзе аперацыі. Мы спадзяёмся, што перыяд выздараўлення не будзе працяглым і ў самы бліжэйшы час Вы зможаце прадоўжыць выкананне сваіх вельмі цяжкіх абавязкаў Кіраўніка Дзяржавы Расійскай.

Ад усёй душы жадаю Вам, дарагі Барыс Мікалаевіч, хутчэйшага выздараўлення, бадзёрасці і аптымізму, невычарпальнай энергіі.

Поспехаў Вам, Вашай сям'і, усім расіянам, з якімі беларускі народ звязвае моцная дружба, правераная вякамі і напоўненая новым зместам у рамках Супольніцтва Беларусі і Расіі».

**БЕЛТА.**

## ПРЫВІТАННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. Р. ЛУКАШЭНКІ З НАГОДЫ СВЯТКАВАННЯ ДНЯ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь!
Дарагія суайчыннікі!

79 гадоў таму адбылася падзея, якая ўскалыхнула ўвесь свет, зрабіла сур'ёзны ўплыў на лёсы многіх народаў планеты, у тым ліку і беларускага.

У сучасным грамадстве людзі ставяцца да гэтай падзеі па-рознаму — у залежнасці ад сваіх палітычных поглядаў і перакананняў. І гэта нармальна.

Але пры ўсёй палярнасці думак трэба бачыць галоўнае: Кастрычніцкая рэвалюцыя — гэта не вынік змовы адзіночак, а заканамерная вяха гістарычнага развіцця, абумоўленая доўгім і пакутлівым пошукам шляхоў да дасягнення прагрэсу. Была зроблена спроба прарыву з сістэмы эксплуатацыі чалавека чалавекам да справядлівага грамадства роўных магчымасцей, у якім перамагаюць інтарэсы людзей працы.

Нельга адназначна ацэньваць пройдзены шлях. У паслярэвалюцыйных дзесяцігоддзях увасобілася многае — гераічнае і трагічнае, светлае і горкае, узвышанае і агіднае, добрае і жорсткае. З аднаго боку, стваральная праца, пафас першых пяцігодак, выдатныя поспехі ў эканоміцы, навуцы, сацыяльна-культурнай сферы, а з другога — цяжкія выпрабаванні, велізарныя людскія страты, трывогі і пакуты.

Беларусь, якая ў паслякастрычніцкі перыяд набыла дзяржаўнасць, у саюзе з іншымі брацкімі рэспублікамі зрабіла магутны рывок у стварэнні эканамічнага і навуковага патэнцыялу, развіцці культуры і адукацыі. Для беларусаў быў адкрыты такі доступ да ведаў, якога яны не ведалі за ўсю гісторыю свайго існавання.

У передваенны час трывала ўмацаваліся вузы дружбы і ўзаемадапамогі народаў СССР. Гэта дружба дапамагла нам выстаяць і перамагчы ў самай кровапралітнай з войнаў, адрадзіць з попелу разбураныя гарады і вёскі. Бескарыслівая дапамога брацкіх рэспублік у пасляваенныя гады садзейнічала таму, што Беларусь ператварылася ў сапраўды квітнеючы край з высокаразвітой народнай гаспадаркай, магутным інтэлектуальным патэнцыялам.

Акідваючы позіркам гераічнае мінулае нашай Радзімы, аналізуючы тое, што адбылося з намі за апошняе дзесяцігоддзе, мы павінны атрымаць урокі для цяперашняга і будучага. Галоўны з іх заключаецца ў тым, што параліч улады на ўсіх узроўнях можа прывесці да непрадказальных вынікаў. Менавіта параліч улады стаў асноўнай прычынай разбурэння вялікай дзяржавы — Савецкага Саюза.

Сёння суверэнная Беларусь перажывае не лепшыя часы. У цяперашняй складанай сітуацыі трэба рэалістычна ацэньваць наяўныя цяжкасці, дакладна бачыць перспектыву. Пры ўсіх складанасцях сучаснага развіцця ёсць упэўненасць: у бліжэйшыя гады наша жыццё зменіцца да лепшага. Адна з самых важных умоў для руху наперад ва ўсіх сферах сацыяльна-эканамічнага развіцця — зацвярджэнне ў краіне моцнай дэмакратычнай улады. Гэтаму, несумненна, будзе садзейнічаць маючая адбыцца канстытуцыйная рэформа.

Паважаныя таварышы! Ад усёй душы віншую вас з дзяржаўным святам — Днём Кастрычніцкай рэвалюцыі. Жадаю ўсім вам набыць упэўненасць у заўтрашнім дні, здароўя, асабістага і сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы на карысць нашай Айчыны.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*ПОГЛЯД*

## ЧЫРВОНЫ КОЛЕР ВА УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ ВЫХОДЗІЦЬ З МОДЫ?

**Напярэдадні дарагой для кожнага шчырага бальшавіка даты — 7 лістапада — з Цэнтральнай і Усходняй Еўропы паступаюць зусім не святочныя для камуністаў паведамленні. Іх аднадумцы церпяць паражэнне за паражэннем на ўсёй прасторы, якую не так даўно ахопліваў Варшаўскі пакт.**

У мінулую нядзелю Балгарыя выбірала прэзідэнта, а Румынія — і прэзідэнта, і парламент. Гэтыя выбары павінны былі пацвердзіць або абвергнуць выснову пра тое, што з паражэннем камуністаў на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі і посткамуністаў — на нядаўніх парламенцкіх выбарах у Літве наша частка Еўропы ўступае ў новую фазу сваёй гісторыі, якая характарызуецца канчатковым развітаннем з камуністычнымі ілюзіямі.

Палітычныя працэсы ў Балгарыі і Румыніі пасля 1991 года ў многім нагадвалі беларускую сітуацыю. У абедзвюх гэтых краінах пасля крушэння таталітарных рэжымаў пры ўладзе ўдалося застацца левым — былой камуністычнай наменклатуры сярэдняга звяна. Як і ў Беларусі, посткамуністам у гэтых балканскіх краінах не ўдалося стабілізаваць эканамічную сітуацыю. Спробы ажыццявіць лозунгі сацыяльнай справядлівасці на практыцы абярнуліся тармажэннем рынкавых рэформаў і паступовым спаўзаннем у яшчэ больш глыбокі эканамічны крызіс.

Як вынік — на працягу мінулых пяці гадоў і балгары, і румыны паступова расчароўваліся ў шчодрых на абяцанні левых, якія, як аказалася, няздольныя вярнуць адносны дастатак эпохі «развітога сацыялізму».

Падобна, настаў час плаціць па рахунках. У Балгарыі перамогу на прэзідэнцкіх выбарах атрымаў кандыдат ад апазіцыйнага блока правых партый, 44-гадовы Пётр Стаянаў, нанёсшы паражэнне посткамуністу Івану Маразаву.

У Балгарыі, як і ва ўсіх іншых невялікіх краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы (за выключэннем Беларусі) прэзідэнт не надзелены вялікімі ўладнымі паўнамоцтвамі. Пры нязначнай колькасці адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, невялікім насельніцтве, адсутнасці нацыянальных аўтаномій і геапалітычных прэтэнзій невялікія дзяржавы Еўропы не бачаць патрэбы ў тым, каб канцэнтраваць вялікую ўладу ў адных руках. Так што пра канчатковую перамогу правых у Балгарыі гаварыць пакуль што не выпадае. Аднак тэндэнцыя відавочная.

Падобная карціна назіраецца і ў Румыніі. Хоць канчатковыя вынікі выбараў там пакуль не падведзены, ужо ясна, што найбольшую колькасць месцаў у парламенце атрымае правы блок — «Дэмакратычная канвенцыя Румыніі». Румынскія посткамуністы ўпершыню пасля крушэння Нікалае Чаушэску церпяць паражэнне.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## БУДУЧЫНЯ БЕЛАРУСКА-ІТАЛЬЯНСКІХ АДНОСІНАЎ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ПАЛІТЫКАЎ

Абмеркаванню цяперашняга стану і перспектыў развіцця беларуска-італьянскіх адносінаў была прысвечана гутарка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Італьянскай Рэспублікі ў нашай краіне Джанам Лукай Берцінета. Іх сустрэча адбылася 4 лістапада ў сувязі з заканчэннем тэрміну знаходжання пасла ў Беларусі.

У ходзе гутаркі, ацэньваючы стан спраў у двухбаковым дыялогу Беларусі і Італіі, Аляксандр Лукашэнка адзначыў пазітыўныя тэндэнцыі перш за ўсё ў эканамічных адносінах: апошнім часам заўважаны рост беларуска-італьянскага тавараабароту. Разам з тым кіраўнік нашай дзяржавы падкрэсліў, што ў палітычным аспекце адносіны паміж дзвюма дзяржавамі вымушаюць жадаць лепшага. Прэзідэнт выказаў надзею, што і ў гэтай галіне ў хуткім часе адбудуцца станоўчыя змяненні, паколькі ёсць двухбаковая зацікаўленасць ва ўмацаванні менавіта палітычнага дыялогу паміж дзвюма краінамі. З гэтай пазіцыяй пагадзіўся і пасол Італіі.

Ацэньваючы перспектывы развіцця беларуска-італьянскіх адносінаў, Джан Лука Берцінета адзначыў, што будзе расшырацца іх эканамічны сектар. Дыпламат лічыць, што значна павялічыцца і культурны абмен паміж дзвюма дзяржавамі. На яго думку, павінны адбыцца пазітыўныя перамены і ў галіне турызму. У многім на далейшае расшырэнне адносінаў паміж дзвюма краінамі могуць зрабіць уплыў шэраг двухбаковых дакументаў, якія цяпер знаходзяцца ў стадыі распрацоўкі. У прыватнасці, гэта пагадненні аб паветраных зносінах, аб аўтамабільным транспарце, аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання. Дарэчы, нядаўна Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікаваў пагадненне з Італіяй аб садзейнічанні і ўзаемнай абароне інвестыцый.

З Мінска італьянскі дыпламат адпраўляецца ў Кіеў, дзе ўзначаліць пасольства сваёй краіны на Украіне. Аляксандр Лукашэнка пажадаў паслу поспехаў на новым месцы і выказаў упэўненасць, што знаёмства з нацыянальнай культурай, гісторыяй і традыцыямі беларускага народа дапаможа італьянскаму дыпламату лепш і хутчэй асвоіцца ў другой славянскай дзяржаве.

**Ігар РУБАН,**
**БЕЛТА.**

## ВЫХОЎВАЦЬ ДЗЯЦЕЙ БУДЗЕ ЛЯГЧЭЙ, КАЛІ ПАРЛАМЕНТ ЗГОДЗІЦЦА З ПРАПАНОВАМІ ПРЭЗІДЭНТА

**Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка накіраваў у Вярхоўны Савет праект Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей».**

Закон, у які кіраўнік дзяржавы прапануе ўнесці змяненні і дапаўненні, уведзены ў дзеянне 1 студзеня 1993 года. У прапанаваным Прэзідэнтам праекце закона прадугледжваецца вылічваць дзяржаўныя дапамогі і вызначаць узровень сукупнага даходу, зыходзячы з велічыні мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек. У выпадку прыняцця гэтых змяненняў і дапаўненняў памеры дзяржаўных дапамог на дзяцей павялічацца ў 1,5—3 разы, а колькасць іх атрымальнікаў складзе 30—35 працэнтаў, гэта значыць будзе адпавядаць узроўню 1995 года.

У праекце закона, адобраным кіраўніком дзяржавы, прапануецца таксама ўвесці дадатковую дапамогу адзінокай маці, якая выхоўвае дзіця ва ўзросце да 1,5 года. Гэта абумоўлена тым, што штомесячны даход такой сям'і складае каля 17 працэнтаў мінімальнага спажывецкага бюджэту.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 689
## АБ ПАРАДКУ ЎЛІКУ ПРАЦОЎНАГА СТАЖУ, ШТО ДАЕ ПРАВА НА ПЕНСІЮ НЕЗАЛЕЖНА АД УЗРОСТУ РАБОТНІКАМ, ЯКІЯ ЗАНЯТЫ НА ПАДЗЕМНЫХ РАБОТАХ, У АДПАВЕДНАСЦІ З АРТЫКУЛАМ 13 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПЕНСІЁННЫМ ЗАБЕСПЯЧЭННІ»

На падставе артыкула 10 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Устанавіць, што работнікам, якія маюць не менш як 10 гадоў стажу на падземных работах, што даюць права на пенсію незалежна ад узросту ў адпаведнасці з артыкулам 13 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні», але якія не выпрацавалі поўнага стажу, прадугледжанага ўказаным артыкулам, пенсія незалежна ад узросту можа назначацца пры наяўнасці не менш як 25 гадоў стажу падземнай работы з залікам у яго:

кожнага поўнага года работы горнарабочым ачышчальнага забою, праходчыкам, забойшчыкам на адбойных малатках, машыністам горных выемачных машын — за 1 год 3 месяцы;

кожнага поўнага года падземнай работы, прадугледжанай Спісам вытворчасцей, работ, прафесій, пасад і паказчыкаў на работах са шкоднымі і цяжкімі ўмовамі працы, занятасць у якіх дае права на пенсію па ўзросту ў сувязі з асобымі ўмовамі працы (Спіс № 1), — за 9 месяцаў.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М. ЧЫГІР.**
30 кастрычніка 1996 г.,г. Мінск.



### *Паважаныя чытачы газеты «Звязда»!*

Працягваецца падпіска на 1997 год, год, у якім мы разам з вамі адзначым 80-годдзе старэйшай беларускай газеты. У сённяшняй складанай сітуацыі, вядома, цяжка знайсці лішнія грошы на падпіску, але, паверце, «Звязда» не будзе лішняй у вашым доме. Мы даём вам галоўнае — інфармацыю.

Падпіску можна аформіць на паўгода (тады, прыслаўшы спецыяльны купон, вы зможаце стаць удзельнікам латарэі, галоўны прыз якой — конь з вупражжу). Кошт падпіскі на першае паўгоддзе — **83.400 рублёў.**

Падпіску можна аформіць і на тры месяцы **(41.700 рублёў).**

*Удзельнікі латарэі могуць выйграць тавары народнага спажывання, сярод якіх электраплуг, веласіпеды, тэлевізары, пральныя машыны, фотаапараты, люстры і г.д.*

Нагадваем, што **спецыяльны конкурс праводзіцца і для паштальёнаў,** для якіх таксама ўстаноўлены каштоўныя прызы: тэлевізар, пральная машына «Мара», веласіпед, а таксама бясплатныя пуцёўкі для аздараўлення і адпачынку дзяцей за мяжой. Падрабязна аб гэтым вы зможаце прачытаць у нумары за 15 лістапада.

Будзем разам!

